# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №8 жнівень 2016 году

Выбаркамавак папярэдзяць – стар.2

“Рэйтынг улады нізкі!” – стар.5

Рух вывеў людзей на вуліцы – стар.8

## Утварылася «Моладзь Руху»




**27 жніўня прайшоў установчы сход моладзевай арганізацыі Руху «За Свабоду», у якім узялі ўдзел 43 дэлегаты з усёй Беларусі.**

Перад зацвярджэннем Статуту і Рады на сходзе выступілі ганаровыя госці, намеснікі старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, Алесь Лагвінец і Галіна Скараход. Кіраўніцтва выказала пажаданні, каб “Моладзь Руху” дзейнічала на падставе мэтаў і каштоўнасцяў арганізацыі, працэс галасавання быў пабудаваны на прынцыпах плюралізму, дэмакратычнасці, кансэнсусу і адкрытасці.

Сходам была абраная Рада ў складзе 9 чалавек:

1. Вікторыя Табаліч — каардынатар палітычнага накірунку
2. Аліна Нагорная — каардынатар культурнага накірунку
3. Кірыл Стаселка — каардынатар адукацыйнага накірунку
4. Вадзім Лявон — фінансавы сакратар
5. Багдан Сакалоў — кіраўнік медыя-службы
6. Пётр Маркелаў — каардынатар па рэкрутынгу і PR
7. Вераніка Мазуркевіч — міжнародны сакратар
8. Максім Ціханаў — каардынатар праваабарончага накірунку
9. Зміцер Стасюкевіч — каардынатар спартовага і камандабудаўнічага накірунку.

## Альтэрнатыва па “асіметрыі”

**Актыўнасць у кампаніі па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Алеся Лагвінца зачапіла ўсё палітызаванае грамадства. Не дзіва, што Алеся не зарэгістравалі. Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» распавядае ў інтэрв’ю “Новаму часу” пра тое, як паламаць шаблоны.**

— Выбараў няма, але ёсць выбарчая кампанія. Калі мы не ўдзельнічаем у выбарчай кампаніі, мы проста не прысутнічаем у публічнай прасторы, становімся яшчэ больш адарванымі ад людзей, ад іх патрэбаў. Безумоўна, можна і трэба працаваць з людзьмі па-за кампаніямі, але выбарчая кампанія — гэта магчымасць заваяваць давер людзей і ахапіць — праз фізічную прысутнасць, праз візуалізацыю, — больш шырокае кола грамадзян. Вось галоўная прычына ўдзелу ў кампаніі.

**працяг на стар. 6-7**

# Выбаркамавак папярэдзяць

**Грамадская ініцыятыва «Жанчыны супраць фальсіфікацый» плануе распаўсюдзіць адмысловыя ўлёткі напярэдадні выбараў у Палату прадстаўнікоў.**



Каардынатар ініцыятывы, намеснік старшыні Руху «За свабоду» Галіна Скараход распавяла, што яны збіраюцца звярнуцца да жанчын-сябраў выбарчых камісіяў. Галіна Скараход:

— Сябры камісіі датычныя да таго палітычнага і эканамічнага курсу, якім потым ідзе краіна. Падчас сёлетніх выбараў жанчын у складзе выбарчых камісіяў налічваецца 75%. Сярод кіраўнікоў выбарчых камісіяў палова — жанчыны. Мы папярэджваем ва ўлётках, што ёсць артыкул 192 Крымінальнага кодэкса, які прадугледжвае да 5-ці год зняволення за скажэнне вынікаў галасавання.

У ініцыятыву «Жанчыны супраць фальсіфікацыяў» уваходзяць сем дэмакратычных структур. Сярод іх Аб' яднаная грамадзянская партыя, Рух «За Свабоду», Беларускі народны фронт, партыя левых «Справядлівы свет» і іншыя.

# Адгадай прызначэнцаў!



**Рух «За Свабоду» запусціў «Палітычны таталізатар-2016» на вынікі парламенцкіх выбараў. Чалавек з найлепшай палітычнай інтуіцыяй, які адгадае ўсіх дэпутатаў, атрымае планшэт.**

Для ўдзелу ў таталізатары трэба зайсці 2016.рух.by і абраць людзей, якія, па-вашаму, з найбольшай верагоднасцю трапяць у парламент.

«Палітычны таталізатар» працуе ў двух рэжымах: рэгіянальны (можна адгадваць па сваёй вобласці/Мінску) ці агульны (увесь склад парламенту). Па выніках будуць узнагароджаныя восем чалавек (сем за рэгіянальныя этапы (флэшкі) і адзін супер-прыз (планшэт ад дэлегата Усебеларускага народнага сходу) атрымае той, хто першы ўгадае усіх дэпутатаў.

Удзельнічаць у «Палітычным таталізатары» могуць жыхары Беларусі старэй за 18 год, акрамя супрацоўнікаў ЦВК і чыноўнікаў ад абласнога ўзроўню і вышэй. Абавязковай умовай удзелу ў розыгрышу з'яўляецца рэпост (дзяльба) сваімі вынікамі ў адной з сацсетак Facebook, «Вконтакте», «Одноклассники»).

Вынікі беларускіх выбараў — ужо шмат год прадказальныя, пераможцу/пераможцаў можна адгадаць задоўга да правядзення галасавання, адзначыў ініцыятар правядзення «Палітычнага таталізатару», першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.



Ён нагадаў, што вынікі пераможцы «Палітычнага таталізатара-2015», у якім угадвалі прэзідэнта Беларусі, разышліся з афіцыйнымі толькі на дзясятыя долі працэнта.

«Зараз праходзіць выбарчая кампанія, — нагадаў Губарэвіч. — Мы заклікаем беларусаў да актыўнага ўдзелу ў ёй, падтрымцы правацэнтрысцкіх кандыдатаў. Але і прапануем разам пасмяяцца з выбарчага фарсу і такім чынам выказаць пратэст супраць сістэмы прызначэнняў дэпутатаў».



# Іх засталося 67

**Завершыўся этап рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Па розных прычынах незарэгістраваныя 14 прэтэндэнтаў ад працэнтрысцкай кааліцыі, частка з іх абскарджвае гэтае рашэнне. 67 кандыдатаў працягваюць кампанію.**

Прапануем вашай увазе спіс рухаўскіх кандыдатаў, якіх варта падтрымаць 11 верасня.




| | |
|---|---|
| Брэсцкая-Заходняя выбарчая акруга №1 | Сяргей Пятрухін |
| Баранавіцкая-Заходняя выбарчая акруга №5 | Юрый Казакевіч (не зарэгістраваны, абскарджвае) |
| Віцебская-Горкаўская выбарчая акруга №17 | Хрыстафор Жаляпаў |
| Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга №19 | Георгій Станкевіч |
| Полацкая гарадская выбарчая акруга №27 | Вольга Дамаскіна |
| Сеннецкая выбарчая акруга №30 | Аляксей Гаўруцікаў |
| Навагрудская выбарчая акруга № 57 | Вадзім Леван (не зарэгістраваны, абскарджвае) |
| Слуцкая выбарчая акруга № 67 | Аліна Нагорная |
| Вілейская выбарчая акруга №74 | Максім Ціханаў |
| Горацкая выбарчая акруга №82 | Андрэй Юркоў |
| Ясенінская выбарчая акруга №100 | Юрый Меляшкевіч |
| Сухараўская выбарчая акруга №101 | Лагвінец Аляксандр (адмова ў рэгістрацыі, абскарджвае) |
| Каліноўская выбарчая акруга №108 | Юрый Губарэвіч |
| Партызанская выбарчая акруга №110 | Віктар Янчурэвіч |







# “Парламент – месца для дыскусій”

**Сярод зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў шостага склікання 33-гадовы Юрый Меляшкевіч, каардынатар руху «За Свабоду» па Мінску. Ён будзе змагацца за месца ў Авальнай зале па Ясенінскай выбарчай акрузе Мінска № 100.**



– Спрабую балатавацца ў чацвёрты раз. Раней, праўда, удзельнічаў толькі ў мясцовых выбарах, стараўся паказаць сапраўднае аблічча беларускага выбарчага працэсу – наколькі ўсё несправядліва і непразрыста. З іншага боку, удзел у выбарчых кампаніях – гэта ўсё ж такі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з людзьмі, расказаць ім пра свае погляды, адчуць падтрымку...

Я з сям'і чарнобыльскіх перасяленцаў. Мая акруга – Малінаўка, дзе жыве многа такіх жа сямей, як наша, дзе людзі сабраны па прынцыпе зямляцтва. У нашым пад'ездзе жывуць перасяленцы са Слаўгарада, у суседнім – чачэрскія і г.д. У нас ёсць супольная праблема, мы ведаем, што такое наступствы Чарнобыля – які гэта страх, якія гэта хваробы! Мая сястра пацярпела ад аварыі, у яе была анкалогія. Я разумею, што людзі, якія жывуць у гэтым мікрараёне, могуць мяне падтрымаць яшчэ за тое, што ў нас аднолькавы з імі лёс, я родам са Слаўгарада…

Многія разумеюць, што будаўніцтва АЭС у Астраўцы – вялікая памылка. Што энергетычную бяспеку яна нам не гарантуе. Беларусь бярэ на сябе дадатковы цяжар крэдытаў, бярэ на сябе тэхналагічную залежнасць, бо ў нас шмат чаго няма… Спецыялісты, сістэма бяспекі – усё гэта будзе пастаўляцца і кантралявацца Расіяй. На мой погляд, вельмі важна, каб гэты праект спыніўся, каб нашы выдаткі аказаліся мінімальнымі. І, дарэчы, усё тое, што зараз адбываецца на будаўніцтве станцыі, гэта, мне здаецца, не што іншае, як наўмыснае зацягванне рэалізацыі праекта, які ў будучым і сапраўды можа спыніцца. Такіх прыкладаў, дарэчы, шмат у свеце.

**Вас многія больш ведаюць як эксперта-эколага, чым як палітыка.**

– Яшчэ ў часы студэнцкай практыкі я даведаўся, якія нізкія заробкі ў эколагаў. Займацца цікавай для мяне справай азначала не мець магчымасці карміць сям'ю. А я на той час ужо быў жанаты, у 2008 годзе нарадзіўся наш першынец – сын Станіслаў. Прыйшлося мяняць прафесію, спрабаваць сябе ў іншых сферах: хто хоча, то знойдзе, як зарабіць, галоўнае не баяцца спрабаваць. Працаваў інжынерам у будаўнічай кампаніі «БелХэн-І», менеджарам у ІТ-кампаніях. Была спроба адкрыць свой бізнес, які быў звязаны з вытворчасцю ветрагенератараў. Не атрымалася. А больш за тры гады таму стварыў турыстычную кампанію “Куфэрак падарожжаў”, і паспяхова там выконваю абавязкі дырэктара.

**Вы з якой праграмай звяртаецеся да выбаршчыкаў?**

– З «Народнай праграмай”. Яна распрацавана шэрагам палітычных партый і рухаў з удзелам вядомых у краіне экспертаў. Я сааўтар часткі матэрыялаў, прысвечаных экалогіі і энергетыцы. Гэта праграма задавальняе шырокі спектр палітычных суб'ектаў, і калі мы прыйдзем у парламент, у нас будзе згода шырокай кааліцыі на перамены.

Я лічу, што парламент – гэта месца, дзе павінна ісці дыскусія, дзе павінны гучаць розныя экспертныя меркаванні. На мой погляд, дэпутаты, якія прымаюць законы, павінны несці персанальную адказнасць за тое, што яны прапануюць і за што яны галасуюць. Сёння гэтага ў Беларусі няма.

Сёння выбаршчыкі разумеюць, што тыя, хто ідзе ў дэпутаты, як кажуць, ад улады нічога ў нашым жыцці мяняць не збіраюцца. Існуючая сістэма іх задавальняе, забяспечваючы добрым заробкам і годнай пенсіяй у будучым. Таму, калі б барацьба была чэснай, шанцаў трапіць у парламент у незалежных кандыдатаў было б шмат.

# “Рэйтынг улады нізкі”

**Сярод зарэгістраваных рухаўскіх кандыдатаў у дэпутаты — першы намеснік старшыні арганізацыі Юрась Губарэвіч. Ён балатуецца па Каліноўскай акрузе № 108 Мінска. Чаму ў сталіцы, а не ў родным Белаазёрску, дзе яго добра ведаюць?**

– У Мінску я стала жыву і працую з 2007 года, і натуральна, што прасцей працаваць з выбаршчыкамі менавіта тут. А ў Белаазёрску я ўдзельнічаў у парламенцкіх выбарах 2004 года. Тады мая каманда сабрала 5 тысяч 800 подпісаў на тэрыторыі акругі, каб зарэгістравацца кандыдатам. Але ўлада добра вучыцца на сваіх памылках. Пасля нашага дэмакратычнага прарыву ў мясцовыя Саветы, на выбарах у Палату прадстаўнікоў шлагбаум быў апушчаны. Для мясцовай вертыкалі гэта было пытанне жыцця і смерці, і яны зрабілі ўсё, каб не паўтарыўся 2003 год. Мяне тады, зразумела, зарэгістравалі кандыдатам і далі другое месца. Напісалі выніковыя лічбы, якія адпавядалі сабраным подпісам. Гэта крыху больш за 12%. Але зразумела, што пытанне не ў працэнтах. А ў тым, што калі няма магчымасці пракантраляваць працэс, то працэнты могуць пісаць, якія захочуць.

**– 11 верасня ў вас будзе магчымасць пракантраляваць падлік галасоў? Колькі вашых прадстаўнікоў трапілі ва ўчастковыя камісіі?**

– Мы вылучалі 21 чалавека ў камісіі, уключылі толькі двух.

**– А колькі ўсіх камісій па вашай акрузе?**

– 40. Палову мы маглі б ахапіць. Але, думаю, тут пытанне не ў колькасці прапанаваных людзей, а тое, як камісіі фарміруюцца. Улада ўсё роўна не прапусціць прадстаўнікоў незалежных структур лічыць галасы ў кожную камісію. Нават з тых двух нашых прадстаўнікоў, якія зацвердзілі, толькі адзін трапіў у склад камісіі паўнавартаснага ўчастка. Другі ж будзе працаваць у так званай камісіі-аднадзёнцы, якая ствараецца на закрытым участку – у амбулаторыі, дзе людзі галасуюць толькі ў дзень выбараў цягам двух-трох гадзін. Зразумела, што гэта не дазволіць цалкам мець уяўленне пра вынікі галасавання, таму мы робім акцэнт на моцнае назіранне. У планах – закрыць усе ўчасткі назіральнікамі, на кожным мець мінімум па 2–3 чалавекі, каб была магчымасць дзяжурыць пасменна і не пакідаць участак ні на хвіліну.



**– І што гэта дасць? Колькі ўжо было такіх моцных кампаній па назіранні за выбарамі, здаралася, што фальсіфікатараў літаральна хапалі за руку. Хоць раз вынікі галасавання былі перагледжаны? Дый што там вынікі – сам інцыдэнт дзе-небудзь разглядаўся?**

– Відавочна, што ў сённяшняй сітуацыі, калі моцная прывязка да Расіі прывяла краіну да крызісу, Лукашэнка хоча, каб Захад заплаціў за нейкія дэмакратычныя змены ў Беларусі сваёй падтрымкай.

Да мінулага года крытэрыямі ацэнкі рэальных змен у Беларусі былі вызваленне палітвязняў і негалосная забарона на рэпрэсіўныя дзеянні адносна тых людзей, якія выходзяць на розныя акцыі і нават удзельнічаюць у несанкцыянаваных мерапрыемствах. Улада вымушана абмяжоўвацца штрафамі і ўжо даўно нікога не кідаюць за краты. Крытэрыем гэтага года будзе сітуацыя вакол выбараў у парламент. І тыя заходнія палітыкі, якія наведваюць Беларусь, адкрыта гавораць, што хацелі б бачыць дэмакратызацыю на прыкладзе парламенцкіх выбараў, каб адбываліся змены ў практыцы іх правядзення. І пытанне нават стаіць не ў тым, ці патрапяць у парламент асобы, чые прозвішчы асацыіруюцца з беларускай апазіцыяй, а ў тым, наколькі адкрыта і празрыста будзе адбывацца працэс. Таму зараз мы назіраем адносную лібералізацыю – некаторыя прэтэндэнты збіралі подпісы пад бел-чырвона-белымі сцягамі, усе ініцыятыўныя групы былі зарэгістраваны, улада нават ідзе на пэўную “мяккую беларусізацыю”.

Але натуральна, няма сумневу, што ўлада не захоча выпусціць працэс з-пад кантролю цалкам, асабліва на фоне эканамічнага крызісу, бо гэта можа прывесці да ламання існуючай сістэмы, якая выбудоўвалася больш за 20 гадоў. Рэйтынг улады нізкі. І калі б выбары прайшлі без адміністрацыйнага кантролю, то праўладных кандыдатаў у парламенце была б меншасць.

# Альтэрнатыва па “асіметрыі” працяг ад 1 стар.



Мы павінны даваць людзям альтэрнатыву. Паказаць, што ва ўладаў словы і справы — гэта дзве розныя рэчы. Калі не спрабаваць удзельнічаць, то ўлады могуць наствараць «альтэрнатыўных» кандыдатаў, зрабіць выгляд, што прайшлі выбары, і нават дазволіць сабе раскошу палічыць бюлетэні.

Ад пачатку кампаніі я арыентаваўся на тое, што збор подпісаў — гэта самая ліберальная частка кампаніі. Менавіта таму мы прыдумалі шэраг такіх «асіметрычных», нечаканых крокаў, якія дазволілі нашай камандзе і мне асабіста заяўляць публічна ў нашай акрузе.

**— Ці цяжка вам было праводзіць гэтую «асіметрычную» кампанію?**

— Вялікіх складанасцяў не было. Найбольшы выклік — гэта мы самі. Я не лічу цяжкасцямі скаргі, якія на мяне пісалі па падказцы мясцовых уладаў ці спецслужбаў.

Я зыходзіў з таго, што выбарчая кампанія — гэта спосаб прыцягнення ўвагі да несправядлівых момантаў у нашым жыцці, да тых праблемаў, якія ёсць у грамадстве агульнанацыянальна альбо ў акрузе лакальна. У агульнанацыянальным ёсць тое, што прадстаўнікі беларускай культуры рашэннем уладаў адрэзаныя ад сваёй публікі, якая іх любіць і прызнае. Я паспрабаваў спалучыць адно і другое.

Што тычыцца канцэрту, то я задаў Лявону пытанне наконт канцэрту, ён не сказаў «не», падумаў, і, калі мы да гэтага пытання вярнуліся, ён пагадзіўся.

Пры арганізацыі канцэрту мы сутыкнуліся з пэўнымі цяжкасцямі. Побач быў адміністрацыйны будынак, і ў ім ніхто не пагадзіўся падлучыць нас да электрычнасці, адмовілі нават арэндаваць разетку на паўтары гадзіны! Нам проста пашэнціла, што ў доме непадалёк адна сям’я ласкава дала згоду падлучыцца да яе разеткі. Нізкі ім паклон!

У нас былі два генератары, але ў той момант, калі людзі ў цывільным спрабавалі націснуць на гаспадароў кватэры і перакрыць нам электрычнасць, ніводзін з іх не заводзіўся. Магло б атрымацца вельмі непрыгожа.

Абвесткі пра «спеўны пікет» мы рабілі праз сацыяльныя сеткі, вырабілі запрашальнікі на сустрэчу з прэтэндэнтам у кандыдаты з канцэртам. Раздалі людзям недзе паўтары тысячы гэтых запрашальнікаў. Але такой колькасці людзей мы не чакалі.

Мы зрабілі яшчэ адну «асіметрычную» рэч — «мост нацыянальнага сцягу». З бел-чырвона-белымі сцягамі стаялі на мосце праз МКАД. Зараз Мінгарвыканкам унёс змены ў сваю пастанову пра дазволеныя месцы пікетаванняў, і забараніў акцыі на мастах, віядуках і праезных частках дарог. То бок, фактычна забаранілі выкарыстоўваць машыны для агітацыі за кандыдата. Гэта канкрэтная рэакцыя Мінгарвыканкаму на тое, што мы рабілі.

**— Пытанне, якое цікавіць усіх і заўсёды: яркая выбарчая кампанія патрабуе грошай. Адкуль грошы на кампанію, і наогул, у якую капейчыну яна ўляцела?**

— Грошы я ўклаў свае і некаторых сяброў. Насамрэч, вялікіх грошай на кампанію не трэба. Сцягі: матэрыял каштаваў два з паловай мільёны недэнамінаваных рублёў — 250 сучасных. Пашыла іх актывістка Руху. Стэнды — фактычна капейкі, каштавала толькі жалеза і фарба. Зварылі, разрэзалі і пафарбавалі іх я асабіста і сябры маёй каманды. 10 рублёў каштавала фарба. Улёткі — раздрукаваць паўтары тысячы запрашальнікаў на канцэрт Вольскага можна на любым прынтары.

Фактычна, зараз кампанія каштуе два-тры месячныя заробкі. Любы грамадзянін, які думае стаць дэпутатам не «зараз», а за два-тры гады,

можа зэканоміць гэтыя сродкі.

Я прыхільнік таго, што, калі ты не здольны ідэйна мабілізаваць людзей — не трэба сунуцца ў палітыку. Я, напрыклад, не разумею тых, хто плаціць грошы зборшчыкам за подпісы. Так, у кампаніі ёсць выдаткі, трэба, каб былі грошы, але самае галоўнае — гэта людзі, каманда, жаданне дапамагчы.

Яркая кампанія — гэта не грошы, гэта ідэі. Канцэрт Вольскага — мая ідэя. Пікет на мосце — майго сына. Ідэя банераў — Пятра Маркелава. Здымкі нам дапамагаў рабіць бясплатна адзін вядомы беларускі фатограф, ён жа дапамог з дызайнам банеру. То бок, у нас у краіне ёсць людзі, якія гатовыя ўкладаць не грошы, а сваю працу дзеля таго, каб адбыліся змены. І гэта той патэнцыял, які надалей трэба выкарыстоўваць. Дарэчы, «Вышысцяг» — гэта таксама ідэя Маркелава.

Мы працавалі і працуем так, каб у людзей быў імпэт. Мне вельмі хацелася, каб мая каманда адчула асалоду ад камунікацыі з людзьмі. Каб досвед гэтай камунікацыі, жаданне зменаў, імкненне пераканаць людзей, што змены магчымыя, — перадаваліся ў камандзе. І потым ад каманды — далей. Мне здаецца, што гэта ў нас атрымалася.

**— Тое, што вас не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты, вашай дзейнасці не перашкодзіла?**

— Зазначу, знялі з кампаніі мяне не за канцэрт Вольскага, не за пікеты і «Лагвінецмабіль», і не за скаргі, якія пісалі настаўнікі. Фармальна мяне не зарэгістравалі за распаўсюд друкаваных матэрыялаў, які забаронены пастановай ЦВК. Друкаваныя матэрыялы — гэта мая візітоўка, якую мы давалі зацікаўленым, запрашэнне на «спеўны пікет», і газета «Народная воля», якую на пікеце раздавала рэдакцыя дзеля рэкламы выдання. Такое палажэнне ў пастанове ЦВК — атавізм. Ладна, напісалі б агітацыйныя матэрыялы.

Дарэчы, упэўнены, калі б не гэта, яны б знайшлі іншыя падставы, каб мяне не рэгістраваць.

Але кампанія яшчэ не скончаная — хачу гэта падкрэсліць. Нерэгістрацыя не перашкаджае дзейнічаць у акрузе далей. Мы ўжо зараз сабралі больш за 100 подпісаў за вырашэнне дзвюх мясцовых праблемаў. Адна з іх — рамонт мосту праз МКАД, дзе мы ставілі пікет. На ім у пешаходнай зоне пасля кожнага дажджу ствараецца лужына, праз якую людзям даводзіцца скакаць, вельмі небяспечна яе абыходзіць. Гэтую сотню подпісаў мы пададзім, а яшчэ фармуляры заяваў параскідваем па паштовых скрынках, каб людзі і індывідуальна дасылалі звароты па гэтай праблеме.

Да канца кампаніі мы думаем сабраць подпісы за рашэнне іншых праблем, на якія не звяртаюць увагі ні ўлады, ні іх мясцовыя дэпутаты. Якія, у прынцыпе, і павінны былі такія праблемы вырашаць. Дарэчы, мая канкурэнтка па акрузе і ёсць мясцовая дэпутатка. Яна ўжо двойчы мясцовая дэпутатка, але я не чуў ад людзей, каб яна намагалася вывучаць і вырашаць праблемы выбарцаў.

Збольшага мы ўжо дасягнулі мэтаў сваёй кампаніі. У нас яшчэ ёсць два тыдні да яе заканчэння, і мы яшчэ будзем у публічнай прасторы як акругі, так і агульнанацыянальнай.

Ёсць адзін індыкатар, лакмусавая паперка, якая кажа, што і сёлета падліку галасоў не будзе. Я бадай што адзіны з усіх альтэрнатыўных кандыдатаў, які вылучыў кандыдатаў ва ўчастковыя камісіі падвойным чынам: ад грамадскага аб'яднання БНФ «Адраджэньне» 34 чалавекі, і 37, уключаючы тых жа 34 — шляхам збору подпісаў грамадзян. Усіх чальцоў выбарчых камісіяў у акрузе — 442 чалавекі. Нашых уключылі толькі двух, а гэта 0,5% ад агульнай колькасці. Таму абвешчаныя вынікі будуць проста капрызам уладаў.

Я хачу выйграваць выбары, а не быць прызначаным. І, зважаючы на водгукі людзей, я сапраўды меў шанцы атрымаць большасць.



# «Ратуйце наш дом!»




**Завяршэння капітальнага рамонту, які цягнецца ўжо амаль чатыры гады, запатрабавалі жыхары дома № 80 па праспекце Незалежнасці. Яны выйшлі на пратэст пры падтрымцы кандыдата ў дэпутаты Юрыя Губарэвіча.**

Капітальны рамонт дома пачаўся ў сакавіку 2013 года. Аднак да гэтага часу шмат што не зроблена, у прыватнасці, не завершаная змена сістэмы ацяплення, ліўневая каналізацыя не цалкам падключаная да сетцы, ёсць праблема са смеццезборам, не праведзены рамонт ліфтоў, не закончанае добраўпарадкаванне двара, не зроблены рамонт дваравых дарог. На свае звароты жыхары дома атрымліваюць адпіскі.

Акцыя пратэсту распачалася ў двары, яе шдзельнікі разгарнулі расцяжку: «Ратуйце наш дом! Пр-т Незалежнасці 80. Патрабуем закончыць капрамонт».

«Мы столькі год плацілі, каб быў зроблены капрамонт. Накапілі дастаткова сродкаў, каб быў зроблены капітальны рамонт. Чаму яго не закончылі? Дзе адказ?» — запытаў адзін з жыхароў дома Віктар Ныркоў.

Праз нейкі час акцыя перамясцілася на ходнікі праспекта Незалежнасці. Агулам на яе выйшл каля 20 жыхароў дома. Актыў жыхароў пачаў збор подпісаў пад петыцыі да ўладаў.

«Мы патрабуем няўхільнага выканання работ па капітальным рамонце, яго заканчэння і прыцягнення да адказнасці ўсіх чыноўнікаў, па віне якіх жыхары дома 80 па пр. Незалежнасці ў г. Мінску апынуліся закладнікамі сістэмы невыканання і пустых абяцанняў», — сказана ў звароце, які пасля завяршэння збору подпісаў пад ім будзе накіраваны ў шэраг дзяржаўных установаў.

Акцыя пратэсту прайшла ў межах передвыбарчага пікета кандыдата ў дэпутаты, першага намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Юрася Губарэвіча.

«Я задаволены, што хаця б 15-20 жыхароў выйшлі разам з намі, таму што гэта яны паднялі праблему, звярнуліся да мяне. Канечне, ёсць вялікая атмасферу страху, і не ўсе гатовыя далучыцца адкрыта, хаця ўсе пратэстуюць», — адзначыў кандыдат у дэпутаты.

Ён спадзяецца, што будзе станоўчы вынік. «І гэта будзе штуршок, каб не сядзець дома, і ў наступны раз выходзіць і патрабаваць выканання сваіх правоў», — заключыў Губарэвіч.



Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 10.09.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by